# НАВІНКІ

3 - 10 кастрычніка 2002 №19(68) Кошт свабодны

Інцырэсна, якую яшчо пакасьць яны прыдумалі пра міня?

Тобі нэ кажыцьця, шчо за намі хтось назірае?

Ой, знаёмыя ўсе твары! Цікава, что ж там робіцца на старонках 4-5?

Дэнгі бэры, аднака, «Кальчугу» набываць буду.

# Часам бывае, што залішняя цікавасьць некаторым выходзіць бокам

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@navinki.net; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 3.10.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №213

## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Хто ўжо ў гэты раз наехаў на шматпакутную *Народную волю*?**
А) Козік
Б) Тозік
В) Бартосік

**2. Якое нацыянальнае сьвята адзначыла 3 кастрычніка Фэдэратыўная Рэспубліка Германія?**
А) Oktoberfest
Б) Дзень адзінства
В) Дзень аншлюсу

**3. На што павысіліся мытныя тарыфы ў Расеі ў 1,5-2 разы?**
А) На аўтамабілі
Б) На наркотыкі
В) На ўсё

**4. А. Лукашэнка падпісаў указ аб стварэньні камісіі па пытаньнях уступленьня Беларусі ў:**
А) ГНО
Б) ПВА
В) СГА

**5. Згодна дамове ЗША і ЭС амэрыканскія вайскоўцы і служачыя на тэрыторыі Эўропы непадсудныя:**
А) Крымінальнаму суду
Б) Шарыяту
В) Грамадзкаму суду

**6. На што зьмянілі сьмяротнае пакараньне лідэру Курдзкай рабочай партыі Абдуле Аджалану турэцкія ўлады?**
А) На катаргу
Б) На пажыцьцёвае зьняволеньне
В) На волю

**7. Што ўпала ў Іркуцкай вобласьці 3 кастрычніка?**
А) Настрой
Б) Мэтэарыт
В) Патэнцыя

**8. Які рэгіён Беларусі наведаў А.Лукашэнка 3 кастрычніка?**
А) Чарнобыльскі
Б) Захудалы
В) Гомельскі

**9. Дэлегацыя якой краіны нанесла візыт у Беларусь у чацьвер?**
А) Ірану
Б) Іраку
В) Якая розьніца

**10. На што ўзьняў цэны канцэрн Белнафтахім?**
А) На паліва
Б) На варыва
В) На порыва

**11. Куды зьбіраецца А.Лукашэнка 6 кастрычніка?**
А) У Кішынёў
Б) У Гаагу
В) У Адстаўку

**12. Каго павіншаваў Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка з 53-й гадавінай нацыянальнага сьвята?**
А) Дзянь Дзэміня
Б) Хун Вэйбіня
В) Шао Ліня

**13. Прадстаўнік якой нацыянальнасьці затрыманы днямі ў Польшчы з выбуховым рэчывам?**
А) Чачэнец
Б) Чачэнец
В) Чачэнец

**14. Якой расейскай кампаніі дазволілі качаць газ праз тэрыторыю Беларусі?**
А) «Мясушко»
Б) «Итера»
В) «Балтимор»

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-Б, 3-А, 4-В, 5-А, 6-Б, 7-Б, 8-В, 9-А, 10-А, 11-А, 12-А, 13-?, 14-Б

# РадыязачысТка

## 146 вёсак вызваленыя з-пад гнёту мірнага атаму




Надта ўжо хутка наша дзяржава намагаецца пакончыць са страшнай Чарнобыльскай спадчынай. Але ня думайце, што ўрад павялічыў выдаткі зь бюджэту на барацьбу з наступствамі аварыі. Нашмат прасьцей і, як аказалася, прыбытковей пачаць «змагацца» з радыяцыяй кардынальна іншым чынам.
146 населеных пунктаў Беларусі, пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы, нядаўна былі прызнаныя «чыстымі» ад радыяцыі і, адпаведна, жыхарам гэтых тэрыторыяў абсалютна нічога не пагражае. Каля 100 тысячаў чалавек разам з радыяцыяй у адзіначасьсе згубіла і чарнобыльскую халяву: індэксацыі да заробкаў і стыпэндыяў, дадатковых водпускаў і шэраг іншых ільготаў. Эканомія бюджэтных сродкаў яўная.
Між тым новая «стратэгія» ўладаў не выклікае зьдзіўленьня. Ужо даўно разносіліся воклічы пакончыць «спэкуляцыю» на Чарнобыльскай праблеме, якая, маўляў, выклікае комплекс ахвяры й псыхалёгію ўтрымльніцтва ў беларускага народу, а таксама шкодзіць разьвіцьцю інвэстыцыйнай палітыкі Беларусі. Прычым падобныя думкі чуліся і з боку высокапастаўленых прадстаўнікоў беларускіх уладаў, і з вуснаў аналітыка лібэральнай *Белорусской газеты* Я.Раманчука, і з рэкамэндацыяў Сусьветнага Банку (падрабязьней гл. арт. «Чарнобыльскі рэвізіянізм», *Навінкі* №14 (63) за г.г.).
Цяпер ад думак перайшлі да справаў. Можна не сумнявацца, што паціху ўся былая тэрыторыя радыяцыйнага забруджваньня неўзабаве будзе абвешчаная самай чыстай у Беларусі і нават карыснай для здароўя, а турфірмы замест Нарачы й Браслаўскіх азёраў будуць зазываць кліентаў правесьці свой летні адпачынак на курортах Брагіна або Нароўлі ●

**Марыя Складоўская-Кюры,**
эндакрыноляг

# Труна на калёсах

Як вядома, адной з найбольш вострых сацыяльных праблемаў на былой постсавецкай прасторы зьяўляецца праблема дэмаграфічная.
Нараджальнасьць катастрафічнымі тэмпамі падае, а вось сьмяротнасьць, наадварот расьце як на дражджах. Аднак пакуль некаторыя плачуцца пра выміраньне расейскай нацыі, іншыя, больш прагматычныя, разьвіваюць індустрыю, якая акурат пабудаваная на гэтым выміраньні.
Маскоўскія вараціле рытуальнага бізнэсу нават вырашылі правесьці своеасаблівую выставу-салён магільнага мастацтва. Днямі ў будыку былой ВДНГ прайшла выстава «Нэкропаль-2002», на якой быў прадстаўлены самы шырокі спэктар пахавальнай прадукцыі. Тут вам і спэцыяльны кандыцыянэр для труны (напэўна, каб нябожчыку лепш дыхалася), і ахаладжальная крышка, дзякуючы якой у труне захоўваецца пастаянная мінусавая тэмпэратура. А каб родным яшчэ доўга сьніўся твар памерлага, пад цёмным шклом усталяваная падсьветка. Апошні енк моды – труна, зробленая з шалупіньня фісташак – карыстаецца найбольшай папулярнасьцю ў будучых кліентаў пахавальных кантораў. У хуткім часе можна чакаць зьяўленьня на рынку рытуальных паслугаў труны з пэрсанальным кампутарам і прамым выхадам у інтэрнэт. Вядома ж, і каштаваць такія вырабы будуць адпаведна. Але дзеля такой справы любых грошай не шкада, абы толькі ісьці ў ногу з часам. Магчыма, неўзабаве выставу змогуць аглядаць і патэнцыйныя мерцьвякі зь Менску ●




## СЭсія

### Парлямэнцкі весьнік

2 кастрычніка адкрылася чарговая 5 сэсія Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу. І пачалася яна зь непрыемнасьцяў для нашага парламанцкага карэспандэнта Монікі Навінскі. Падчас акрэдытацыі на паседжаньні Палаты ёй было выдадзенае часовае пасьведчаньне са словамі: «Пасмотрым ішчо, што вы пра нас напішаце!» Аднак гэта не сапсавала агульнай бадзёрай атмасфэры першага дня працы. Зрабіўшы ранішні пад'ём зь месца пад згукі гімну, дэпутаты прыступілі да працы.
Першая справа – праца ў парлямэнцкіх камісіях. Пасьля такога працяглага перапынку некаторым дэпутатам было складана арыентавацца ў імёнах і прозьвішчах калегаў. Відаць, таму старшыня Палаты В.Папоў папрасіў падняцца старшыняў камісіяў, «штобы уважаемые дэепутаты маглі асьвяжыць іх у сібя ў памяці».
Патроху праца ўвайшла ў належны працоўны рытм. Заўсёднікі парлямэнцкіх паседжаньняў, прэстарэлыя журналісты прывычна задрамалі. Аднак пры вызначэньні парадку дня сытуацыю накаліў дэпутат Фралоў, які прапанаваў уключыць у парадак пытаньне стварэньня камісіі па пошуку прапаўшых людзей. Праўда, нашаму карэспандэнту засталося невядомым, каго меў на ўвазе генэрал Фралоў: пошук Завадзкага з Ганчаром ці супругаў Бубашкіных, якія бясьсьледна згінулі ў Нямеччыне. Дэпутаты рэзонна заўважылі, што ў розных краінах рэгулярна зьнікаюць людзі (нават дзясяткамі і тысячамі), але там не ствараюць парлямэнцкіх камісіяў на гэты конт. Дэпутатка-яблычніца Абрамава нават прапанавала не перашкаджаць міліцыі ў пошуку зьніклых асобаў. Дружным галасаваньнем прапанова была адхіленая, а правакацыя прысечаная. Увогуле дэпутатаў чакае цяжкая праца, трэба вырашыць шэраг пытаньняў. Між іншым, будзе разглядацца праект Закону «Аб вайсковым становішчы», пра што мы паведамім у наступных нумарах газэты.

## ВыбірАй

### На трэцюю ходку

На апошняй прэс-канфэрэнцыі А.Г. Лукашэнка даў своеасаблівы пачын: на пытаньне журналістаў, ці будзе ён балятавацца на трэці тэрмін, прэзыдэнт адказаў, што рашаць будзе народ, а калі спатрэбіцца, зьбяром рэферэндум і зьменім Канстытуцыю. Вось і губэрнатар Санкт-Пэтэрбурга А. Якаўлеў, другі тэрмін губэрнатарства якога хутка сканчаецца, намякнуў, што «час пакажа». Што гэта значыць? Перадусім, падаецца, што стваральнікі амэрыканскай Канстытуцыі і тыя, хто сьпісваў зь яе канстытуцыі новастворраных незалежных дзяржаваў, ня ўлічвалі асаблівасьцяў усходнеславянскіх мэнталітэтаў. Бо, як пісаў маркіз дэ Кюсьцін у XIX стагодзьдзі, асноўнымі якасьцямі славянскага мэнталітэту зьяўляюцца фаталізм і прага да дэспатыі. Таму сярод крымінальнікаў і распаўсюджана перакананьне, што нават двух разоў турэмнага зьняволеньня недастаткова, каб быць сапраўдным аўтарытэтам, і толькі трэцяя ходка дае права лічыцца кімсьці вартым увагі. Засталося толькі прыняць папраўку ў Канстытуцыю, якая б забясьпечвала кожнаму народнаму выбраньніку тры срокі, незалежна ад волі народу, яго абраўшага.




# Новая мэтодыка экспрапрыяцыі

Беларускім уладам даўно не дае спакою пытаньне, як знайсьці найбольш эфэктыўны сродак барацьбы з апазыцыяй. Да таго распаясаліся, што спакою ад іх няма. Саджаеш на суткі – сусьветная грамадзкасьць абураецца. Б'еш па с*рацы – таксама ў праізволе вінавацяць. Вось і застаецца біць нягоднікаў рублём. Аднак прызначаныя шрафы тыя спраўна плоцяць. Здавалася б, адкуль, напрыклад, у беспрацоўнага Шчукіна столькі грошай? Тым больш што праваабарончая арганізацыя «Вясна» апошнім часам грошы заціскае.
Аднак крыніцу паступленьня золата-валютных рэзэрваў палітычных хуліганаў удалося-такі высьветліць. Нядаўна прыйшла пара плаціць штраф пяцём маладым зубрам, якіх у мінулым годзе шклоўскі суд прыгаварыў за перадвыбарчы пэрфоманс. Нагадаем, яны тады апранулі маскі з вусамі й бегалі па тэрыторыі саўгаса «Гарадзец». За тыдзень да заканчэньня тэрміну ўплаты не хапала каля 2000 даляраў. Таму на сайце руху была разьмешчаная абвестка з просьбай аб дапамозе, на якую адгукнуўся невядомы беларус, які жыве зараз у ЗША, які й адсыцягнуў патрэбную суму.
Палітычная міласьціна неўзабаве стане галоўным шляхам здабываньня сродкаў на штрафы. Тут бы й прышчучыць пабярушак падаткавай інспэкцыі: ці прынесьлі «зубры» разам з грашыма даведку аб даходах? Але пужаць убогіх – нешляхетная справа, ды й сабе даражэй – міласьціна ўсяроўна йдзе ў дзяржаўны бюджэт ●

# І на чаўнака бывае праруха

## Сярод рыначных забастоўшчыкаў зьявіліся штрэйкбрэхеры

З 1 кастрычніка зноўку ўзнавіўся ўсеагульны страйк прадпрымальнікаў. Стаяць такія гіганты беларускай рынкавай эканомікі як «Дынама», «Ждановічы», «Камароўка» і іншыя гандлёвыя цэнтры сталіцы. Страйк падхапілі рыцары бязьмену і гіры ўва ўсіх рэгіёнах краіны. Аднак у агульным ансамблі пратэсту відаць і парасткі клясавай здрады.

На другі дзень забастоўкі, 2 красавіка ў менскім мікрараёне Захад адбылося пампезнае адкрыцьцё новага «Заходняга рынку». Каб прыцягнуць большую ўвагу да падзеі, арганізатары фэсту зладзілі канцэрт, а адмыслова запрошаны цьвік праграмы беларуская поп-зорка А.Саладуха фактычна схіляў мінакоў да байкоту страйку.

Штрэйкбрэхерства ў шэрагах забастоўшчыкаў – не навіна. Бо ў апошні страйк таксама знайшліся тыя, хто, карыстаючыся скарачэньнем прапановы, працягваў набіваць свае кішэні, гандлюючы




красачамі і джынсой, а фактычна – клясавымі інтарэсамі кволай беларускай «сярэдняй клясы».

Як змагацца з такой зьявай, як штрэкбрэхерства? Тут прадпрымальнікам трэба павучыцца ў сваіх магільшчыкаў і клясавых праціўнікаў – рабочых. Яшчэ на пачатку рабочага руху ў 19 стагодзьдзі рабочыя такама сутыкнуліся з такой ганебнай зьявай як штрэйкбрэхеры. Пакуль сьвядомыя рабочыя патрабавалі ад фабрыкантаў лепшай долі, знаходзіліся тыя, хто за дадатковую пайку працягваў гарбаціць ля станкоў і дапамагаў крывасмоку-эксплюатататару прысвойваць дадатковы прадукт.

Аднак тады рабочыя, у адрозьненьне ад нашых сёньняшніх тугадумаў-каапэратараў, зрэагавалі імгненна. Адразу ж узьнікалі лятучыя рабочыя атрады, якія толькі й займаліся, што шчымілі штрэйкбрэхершчыну не па дробязі. Бывалі, праўда, у гісторыі і крывавыя выпадкі, аднак так ці йнакш гэта служыла дадатковым фактарам кансалідацыі рабочых у барацьбе за свае правы.

Так што, спадары-бізнэсмэны, пераймайце перадавы досьвед з рук свайго гістарычнага магільшчыка ●

**Фрыдрых Энгельс,**
ПРАДПРЫМАЛЬНІК І ФАБРЫКАНТ

# Я дастаю з шырокіх штанін...


Пашпарт прыгодны для шматразовых выездаў ва ўсе краіны сьвету
Паспорт действ... для многократных выездов во все страны мира
.. мая 2006 г
8

Гой, да, гой, да,
Пляшы, беларусачка,
Дуй у дуду, селянін –
за кардон у пашпарце
штампа ня будзе.
Ня будзе штампа, а зь ім
Ня нада плаціць пяць мінімалак,
Доўга таміцца ў чарзе.
Прыгажосьці чужыя можна пабачыць,
Басанож прабяжацца па нямецкай зямле.
Гэта ўсё добра, но ёсьць адзін момант:
Кожны палітнекарэктны, палітненадзейны
хрэн
Бруднай вадой на Захад будзе сачыцца
Празь мяжу нашых сьцен.

**Ярыла Пшанічны**

Цьвёрдае рашэньне А.Лукашэнкі балятавацца на трэці прэзыдэнцкі тэрмін у 2006 годзе, агучанае на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі, пераходзіць у практычную плоскасьць. Доказам гэтаму можа паслужыць рашэньне Канстытуцыйнага суда РБ ад 27 верасьня аб скасаваньні славутага штампу ў пашпарце аб дазволе на выезд ува ўсе краіны сьвету: з 1 студзеня 2006 году грамадзяне Беларусі будуць вольна баразьдзіць прасторы Эўропы ды іншых частак сьвету зь непраштампаваным ксівам. Сувязь гэтага рашэньня з намерамі дзеючага прэзыдэнта прасачыць нескладана. Ні для каго не сакрэт, што ў Беларусі назіраецца адток палітычна актыўных грамадзянаў на Захад. Лягеры для эмігрантаў Чэхіі, Бэльгіі, Польшчы ды іншых краінаў літаральна наводненыя дзекаючай і цекаючай публікай. Аднак тут можна ўвайсьці ў зман, калі падумаць, што за кардон высьлізнулі ўсе (ці практычна ўсе) сьвядомыя неадмарозкі.

Вось тут і ўзьнікае пытаньне штампіка. Аказваецца, дазвол на выезд у пашпарце маюць толькі самыя праворлівыя аматары заходняга ладу жыцьця. Тых, што сядзяць на чамаданах і гатовыя ў любы момант ускочыць у цягнік «Менск-Варшава» насамрэч усяго пара дзясяткаў працэнтаў. Пераважная ж большасьць грамадзянаў – а іх па розных падліках больш за 70% – маюць пашпарты, не прыгодныя да заморскіх ваяжаў. Прычыны гэтаму розныя. Хтосьці лянуецца патаўкацца гадзіну-другую ў АВіРы, нехта зацісьнуў у панчосе 5 базавых адзінак, найбольш сэнтымэнтальныя песьцяць сваю корку з «Пагоняй», а некаторыя бабры ўвогуле трымаюць у штанах «краснакожыя паспарціны».

Вядома, у выпадку чаго, такіх нялёгка будзе адправіць у бестэрміновую замежную камандзіроўку (ну, ня ўсе ж у нас журналісты, каб на «хімію» адпраўляць). Згадзіцеся, працяг такой сытуацыі складаў бы пэўныя цяжкасьці для ўсенароднага рэфэрэндуму аб увядзеньні пажыцьцёвага прэзыдэнцтва. Цяпер жа гэтая закавыка своечасова выпраўленая: варта толькі менскім курантам прабіць наступленьне новага 2006 году, прэзыдэнт зробіць недабранадзейным грамадзя-нам «казу» – і тых зь Беларусі як ветрам зьнясе. А далей адміністратыўны рэсурс можна не напружваць ●

**Уладзімір Маякоўскі,**
ПАЛІТЭМІГРАНТ

## ЦАрскі дВОР

### Уладзімір Уладзіміравіч мяняе прафэсію

Апошнія падзеі ў далёкім і блізкім замежжы не пакідаюць сумненьняў, што гэты сьвет коціцца ў манархічную бездань. А выбары становяцца чыстай фармальнасьцю на шляху дыктатараў да абсалютай ўлады. Прыкладам можа служыць крыжовы паход ЗША супраць іраку, абвешчаны яго Вялікасьцю Бушам II, што безумоўна сьведчыць аб вяртаньні часоў дзікага Сярэднявечча.

Яшчэ далей пайшлі рускія ўмельцы з-пад Уралу, якія вырашылі падараваць Уладзіміру Ясна Сонейка Пуціну на 50-гадовы юбілей дакладную копію шапкі Манамаха, якая ва ўсе часы была ў Расейскай імпэрыі сымбалем самаўладзьдзя і дзяржаўнасьці. Далейшы сцэнар лёгка прагназуецца: думскія баяры-апрычнікі большасьцю галасоў адновяць у Расеі манархію, як «ісконна рускую форму ўлады», а цар-бацюшка распачне белы антылевацкі тэрор.

І з таго часу, каб Беларусі ўвайсьці ў Расейсую імпэрыю на раўнапраўных адносінах, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка вымушаны будзе не каламуціцца са зьменамі ў Канстытуцыю і пераабраньнем на чарговы тэрмін, а падхапіць пахістнуўшуюся карону князя Вітаўта і рушыць на ўсход па вяртаньне смаленскіх земляў пад сьвятым чырвона-зялёным сьцягам. І хто ж з нас ня пойдзе за ім?!

# Шпаргалка для МТС GSM

Нядаўні выхад на беларускі рынак новай кампаніі сотавай сувязі «Мабільныя ТэлеСыстэмы» узрушыла рынак сотавай сувязі. Былы манапаліст МЦС Velcom вымушаны быў скінуць кошты на свае паслугі. Але асаблівай напругі капіталістычнага спаборніцтва не назіраецца: Velcom выкарыстоўвае фору, пакрываючы сваёй сеткай добрую палову Беларусі. МТС пакуль утрымлівае ганаровае другое месца і, усё яшчэ дзейнічаючы па старынцы, калдуе са сваімі тарыфнымі плянамі. Аднак каб абысьці суперніка і канчаткова раскласьці яго на лапаткі, мала скінуць кошт за трубу й прапанаваць пасэкундную тарыфікацыю. Тут трэба нешта сапраўды крутое й нечаканае. Для ўзору заўжды падыйдзе замежны досьвед.




Напрыклад, у штаце Ілінойс неўзабаве зьявіцца першая царква з крыжом-антэнай. Праворлівыя агенты тэлекамунікацыйнай кампаніі Spring PCS прапанавалі пробашчу мэтадысцкай царквы гораду Шомбэрг аплаціць выраб і ўсталяваньне на будынку царквы новага крыжа. Але не за пэніс каніна: за гэта яны ўмантуюць у крыж антэну для падачы сыгналу на сотавыя тэлефоны. Камусьці падасца гэта сьвятататцтвам. Але навічкам з МТС ня трэба хлопаць варажкай і хуценька прафінансаваць рэканструкцыю цэркваў ды па ўсёй Беларусі, якія й будуць выконваць ролю перадатчыкаў. І справа сьвятая, і сабе выгоды. Velcom проста лопне ад зайздрасьці! ●




Нарэшце хоць хтосьці здолеў зазірнуць у самыя патаемныя недры АГП.

# «Граждане», прад'явіце рэчы для кантролю!

Чарговая закавыка здарылася з аб'яднанымі грамадзянамі. Анатоль Лябедзька й ягоны намесьнік Яраслаў Раманчук вярталіся з сэсіі ПАРЭ ў Страсбургу праз 4-ую канфэрэнцыю правацэнтрысцкіх партыяў у Празе. Кіраўнікі АГП чамусьці выклікалі падазрэньне ў беларускіх мытнікаў, і таму было вырашана правесьці дасканалы вобыск. Больш за гадзіну парыліся бедалагі на пункце дагляду аэрапорту «Менск-2». Невядома, што шукалі вартавыя межаў - ці то пляны нэалібэральнай рэвалюцыі, ці то кантрабандны гаш. Але на ўсялякі выпадак канфіскавалі ўсе носьбіты інфармацыі, уключаючы газэты. Раманчук страціў свой ноўтбук, а Лябедзька дыскеты, таму з-за адсутнасьці аргтэхнікі праца партыі цяпер можа быць паралізаванай.

Прэс-служба АГП адразу разрадзілася выкрывальнай заявай пра дзяржаўную рэпрэсіўную машыну, якая нібыта запушчаная беларускімі спэцслужбамі супраць партыі, незалежныя СМІ – пра парушэньні правоў чалавека. На самой справе ўсё прасьцей. Мы неаднаразова выязджалі за мяжу, і таму можам параіць: дакладна запаўняйце дэклярацыю і ніякі пагранец ці мытнік да вас не дачэпіцца. Ім жа не кампутары з дыскетамі патрэбныя, ім за дзяржаву крыўдна! ●

**Верашчагін,**
СЛУЖАЧЫ МЫТНІ



Сардэчна вітаем у чорным бізнэсе зброі.



Вы патрапіліся на мытні па дробнай кантрабандзе.







# Кальчужка

## Гульня-сымулятар




Гандаль зброяй з недабранадзейнымі краінамі з г.зв. «Восі Зла» ператвараецца ў чынны фактар ня толькі зьнешняй, але і ўнутранай палітыкі краінаў Усходняй Эўропы. Абвінавачаньні з боку ЗША ў продажы Кіевам зброі іраку толькі падлілі керасіну ва ўкраінскую палітычную топку, да плешкі абвастрыўшы крызыс улады ў сястрыцы-Ўкраіны. Са свайго боку Кучма працягвае адмазвацца ад небясьпечных сувязяў з Багдадам, абвінавачваючы Вашынгтон у падтрымцы разьюшанай апазыцыі.

Афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамэнту ЗША Рычард Баўэр улічыў украінскага бацьку ў тым, што той асабіста санкцыянаваў продаж вайсковай радыёлякацыйнай сыстэмы «Кальчуга» Іраку. Сыходзячы з гэтай фішкі, Вашынгтон абвесьціў аб намеры перагледзець сваё стаўленьне ня толькі да Кучмы асабіста, але й да ўсёй краіны, якой той верхаводзіць. Для затраўкі адміністрацыя ЗША тармазнула прадстаўленьне эканамічнай дапамогі Кіеву на суму прыкладна ў 54 мільёны баксаў, якую Ўкраіна мусіла атрымаць у гэтым годзе.



Ваш даўні сябар прастаўіў вам свой самалет.

На гэтым фоне ўсе наезды на нашага бацьку з боку недабітай яшчэ апазыцыйнай прэсы, што Лукашэнка таксама прыфарцоўвае зброяй з Садамам, выглядае як нейкая сьмешная недарэчнасьць. Маўляў, што там за дзіцячыя цацкі-забаўкі, калі тут, у сябе пад бокам, такую контру намацалі! І сапраўды, хто б мог падумаць, што лепшы сябар Захаду выкіне такі фінт.




Усё пачыналася з таго, што хтосьці надта ўжо любіць малоць языком. Амэрыканскія экспэрты пацьвердзілі аўтэнтычнасьць аўдыёстужкі з запісам голасу Кучмы, якую тайна вёў ягоны былы бадыгард. Праслухаўшы гэтую касэту, янкі выявілі, што ўкраінскі прэзік, які зуб даў, што падпісаўся за міжнародную антытэрарыстычную кааліцыю, насамрэч за базар не адказвае й злосна папірае рэжым санкцыяў супраць Садама Хусэйна. Акурат на адной гэтых стужак між песьнямі Алсу й Воплямі Відаплясава добра чуваць, як Кучма дае дабро на тайны продаж Багдаду сыстэмы далёкага папярэджаньня «Кальчуга», вакол якой і разгарэўся ўвесь сыр-бор.

Такая сьвіньня напярэдадні практычна непазьбежнага пачатку вайсковай апэрацыі супраць Ірака для Буша-малога – што шматок сала для хасіда па суботах. Бо «Кальчуга» можа






На рынку зброі вы аказаліся поўным лузэрам: вампрыйц[illegible] праслухоўваліся й пра вашыя махінацыі са зброяй даведаліся[illegible] Усё гэта было выкарыстана апазыцыяй супраць вас. Так што[illegible]

зьвесьці на «нуль» ўсе стараньні амэрыканскай авіяцыі па руйнаваньні й пляжаньні Багдаду й ваколіцаў.

Але Кучма працягвае строіць наіўную міну, і на пытаньні, хто ж мог загнаць радарныя ўстаноўкі Багдаду няўцямна маша ў бок украінскай паўночнай мяжы. У сваю чаргу кіраўнік адміністрацыі Кучмы фактычна папракнуў Вашынгтон ва ўмяшальніцтве ўва ўнутраныя ўкраінскія справы, заявіўшы, што хваля наездаў наконт незаконнага гандлю зброяй з Іракам зьвязаная з акцыямі пратэсту апазыцыі.

І сапраўды, украінскія вячоркі і лябедзькі адразу падняля на шчыт ідэю гандлю зброяй, якая сёньня засланіла нават справу кіднэпінга й забойства журналіста Гангадзэ. Апазыцыянэры пачалі ліхаманкава маляваць перад вачыма нашчадкаў Тараса Бульбы апакаліптычную карціну таго, як увядзеньне санкцыяў у дачыненьні да Ўкраіны з боку міжнароднай супрольнасьці прывядзе да блякаваньня ўсіх эканамічных кантактаў, налажэньню эмбарга на вываз сала, і амаль што разрыву дыплематычных дачыненьняў з Захадам.

Лідэры ўкраінскай апазыцыі Юлія Цімашэнка і Ко не ўпусьцілі свайго шанцу выкарыстаць сытуацыю, патрабуючы адстаўкі прэзыдэнта, датэрміновых выбараў і, на выхадзе, – прыцягненьне Кучмы да крымінальнай адказнасьці за гешэфты з Іракам. Становішча зьмянілася настолькі, што цяпер апазыцыі ня трэба даказваць, што «Кучма – лох». Сёньня сам Прэзыдэнт Украіны вымушаны даводзіць, што ён не аднагорбы вярблюд.

Нават былы прэм'ер Юшчанка, які асаблівай апазыцыйнасьцю не вызначаўся, адгарадзіўся ад Кучмы бэрлінскай сьцяной і круціць шашні з апазыцыяй, у якую не запісаўся хіба што лайдак. Калі ўзгадаць, што Юшчанку прарочаць на прэзыдэнцкую табурэтку замест Кучмы – то сапраўды сытуацыя крытычная.

У афіцыйным паведамленьні, распаўсюджаным прэс-службай украінскай Генпракуратуры, сьцьцвярджаецца: вынікі



Аднаму незалежнаму журналісту [illegible] вядома пра вашыя махінацыі. Вам прыйдзецца [illegible] касу, інакш – скандал і поле «Кучма».









Вам пашчасьціла злавіць нейкую калымагу, якая худа-бедна давязе вас да дому.










# для Садама

## чорнага рынку зброі










## Правілы гульні

У гульню «Кальчужка для Садама» могуць гуляць адначасова некалькі асобаў. Для гульні вам спатрэбяцца фішкі і купоны. Зрабіце купоны «Зброя» і «Грошы» гэтак, як гэта выяўлена на адпаведных палях «Завод зброі» і «Банк грошай», з разьліку прыкладна па 5 пар купонаў на 1 гульца (у выпадку чаго дарабіце неабходную колькасьць купонаў). Усе купоны акуратна складзіце адпаведна «Зброю» на полі «Завод зброі», а «Грошы» – у «Банк грошай».
Гульню трэба пачынаць, паставіўшы фішку на левае верхняе поле: вы – прэзыдэнт адной усходнеэўрапейскай краіны, што гандлюе зброяй. Вазьміце з «Заводу зброі» адзін купон – гэта вашая супрацьпаветраная ўстаноўка «Кальчуга», якую вы павінны ўцюхаць прэзыдэнту адной блізкаўсходняй краіны, якая стаіць на парозе вялікай вайны – ніжняе правае поле. Ваша задача – памяняць сваю «Зброю» на зялёныя канвэртаваныя «Грошы», каб нармальна правесьці бітву за пасяўную.

**ХОД ГУЛЬНІ:**

Кідайце па чарзе кубік і рухайцеся па коле паводле гадзіньнікавай стрэлкі, выконваючы прадпісаньні, якія пазначаныя на кожным полі. Напрыклад, «+1 Ход» дае вам права дадатковага ходу, «-1 Ход» – прапускаеце ход.
Калі вы трапілі на **поле «-1#»**, вы вяртаеце на «Завод зброі» адзін купон «Зброя» і рушыце далей па коле, нават калі ў вас нічога няма для продажу; калі ж у вас няма «Зброі» – вы пакідаеце ў «Банку грошай» адзін купон «Грошы»; у выпадку, калі вы зусім пустыя - трапляеце ва ўнутранае поле «Кучма».
Трапіўшы на **поле «1# = 1$»** вы кладзеце ўсе купоны «Зброя» на «Завод зброі», бярэце адпаведную колькасьць купонаў «Грошы» і працягваеце рух па коле ў надзеі зноў трапіць у поле «+1#». Калі вы прыбылі бяз «Зброі» – прапусьціце ход.
Калі вы трапілі на поле **«-1$»**, вы павінны вярнуць у «Банк грошай» адзін купон «Грошы»; калі ў вас няма аніводнага купону «Грошы», але ёсьць купон «Зброя» – вы адразу ж трапляеце ва ўнутранае поле «Кучма».
Зрабіўшы кола й трапіўшы ў пачатковае поле **«+1#»** вы бярэце яшчэ адзін купон «Зброя», нават калі ў вас яшчэ застаўся такі сама купон, і ідзеце далей па коле. Памятайце: памяняць «Зброю» на «Грошы» можна толькі трапіўшы на поле «1# = 1$».
Выйграе той, хто дольш за ўсіх пратрымаецца на чорным рынку зброі, або зашыбе кучу бабла.




праверкі паказалі, што ў Ірак Украіна «Кальчугі» не прадавала. У той жа час няўцямна паведамілі, што гэтую зброю экспартавалі ў Эфіёпію. А тая магла ўжо і спэкульнуць. Пры гэтым было асабліва падкрэсьлена, што «Кальчугі» выпускаюць такама ў Расеі і (увага!) Беларусі.
Тым часам афіцыйны Менск не праранiў ані слоўца наконт справаў, якія палаюць вакол Украіны, ціхенька пасьміхаючыся сабе ў вусы.
Увесь гэты разгон вось да чаго. Насамрэч пытаньне зусім ня ў тым, гандлюеш ты з Іракам ці не, а ў тым, злавілі цябе за граблюкі ці ты выйшаў з заварушкі крутым бабром, пры бабках і самакаце. Гэта ў свой час гаворыць, што Кучма ня ўмее граматна замуціць аніводнай сур'ёзнай рэчы: парлямэнт не разагнаў, Гангадзэ знайшлі, нават радарныя ўстаноўкі – і тыя ня здолеў як сьлед штурхнуць.
Тым часам беларускія сабраты Юшчанкі ды Цімашэнкі ўжо каторы год беспасьпяхова мусоляць тэму чалавекаў-невідзімак і збройных гешэфтаў Лукашэнкі. Усё марна: і беларусы не падрываюцца шукаць прапаўшых палітыкаў і журналістаў, і Белы Дом пляваць хацеў на гэтыя «кампраматы» менскага дэспата.
Як жа ўдаецца Кучмаваму канкурэнту выйсьці з гэтай канавы сухім? Каб зразумець знутры ўсе мэханізмы й умовы, паводле якіх разьвіваецца гэты гучны скандал з гандлем зброі, прапануем вам унікальную інтэлектуальную гульню «Кальчужка для Садама». І гэта ня проста звычайная забава. Гульня, распрацаваная лепшымі аналітыкамі Навінак, уяўляе сабой настольны сымулятар чорнага рынку зброі і зьяўляецца мікрамадэльлю міжнародных узаемадачыненьняў у гэтай сфэры. Выступіўшы ў ролі рэзыдэнта гэтага рынку, вы можаце на ўласай кажуры адчуць, што значыць быць Кучмам, а калі пашанцуе, то пабыць у пінжаку кагосьці яшчэ.
Удалага бізнэсу, калегі! ●

**Роні Ракфэлерэнка**


















# Будуем усім мірам

## Беларускія ўлады клапоцяцца пра духоўнае здароўе нацыі

Будаваньне новай Нацыянальнай Бібліятэкі патроху ператвараецца ў гіганцкі (для маштабаў Беларусі) праект веку, які нават дасьць фору любому Лядоваму палацу. «Новы будынак галоўнай чытэльнай залі краіны павінен стаць агульнанацыянальным праектам, у якім прымуць пасільны ўдзел усе прадпрыемствы і арганізацыі краіны», аб чым запатрабаваў Аляксандар Рыгоравіч.
А калі прэзыдэнт сказаў, так таму і быць. Нават калі бюджэту не стае неабходных 120 мільярдаў рублёў (65 мільёнаў даляраў – настолькі ацэнены ўвесь праект), уся краіна ў адзіным парыве кінулася зьбіраць сродкі на беларускі праект стагодзьдзя.
3 кастрычніка канал АНТ распачынае тэлемарафон па збору сродкаў на бібліятэку «Пабудуем бібліятэку разам». Кожныя чатыры гадзіны чакалі нас зводкі са сьвятой бітвы за высокія паказьнікі збору сродкаў на народную мару. Урны для збору сродкаў у той жа дзень былі разьвезеныя па заводзкіх цэхах і студэнцкіх аўдыторыях, і няма ніякіх сумненьняў, што ўсе рабочыя і студэнты, як адзін, аддалі апошнія грошы на прэзыдэнцкі сымбаль духоўнага багацьця народа.



Навучэнцы сталічных школаў за зборам ахвяраваньняў «на бібліятэку». Але ці дойдуць усе сабраныя «фунцікамі» грошы да капілкі «гаспажы Беладонны»?

Але выдатная ініцыятыва прэзыдэнта як заўсёды была папсаваная ніжнім зьвяном улады. Кіраўнікі многіх прадпрыемстваў і ВНУ пачалі прымусовы збор сродкаў на будучы гонар мільёнаў беларусаў пад пагрозай нявыплаты заробкаў і звальненьняў, справакаваўшы такім чынам прэзыдэнцкую ідэю букіністычнага аб'яднаньня нацыі.
Спраектаваны менскім архітэктарам Крамарэнкам (тым самым, які падараваў сталіцы будынак новага вакзалу), будынак Храма ведаў пераплюне па памерах маскоўскі Храм Хрыста-Збавіцеля. 19 паверхаў бібліятэкі будуць сымбалізаваць першы, 19-гадовы этап прэзыдэнцтва Аляксандра Рыгоравіча, пасьля якога мы зажывем заможна і шчасьліва, а форма алмазу галоўнага будынку бібліятэкі – чысьціню і крыштальнасьць намераў прэзыдэнта ў дачыненьні да свайго народу. Як вядома, унутранае ўбранства бібліятэкі будуць упрыгожваць скульптурныя постаці вялікіх палітыкаў і культурных дзеячоў, і натуральна, што без фігуры галоўнага палітыка і культурнага дзеяча краіны гэты архітэктурны ансамбль будзе выглядаць гэткім жа абяздоленым, як «Габэлен стагодзьдзя» бяз твару прэзыдэнта.
Дарэчы мы таксама жадаем прымазаца да гэтай высакароднай справы. Таму рэдакцыя газэты *Навінкі* скінулася й сабрала сродкі ў памеры 2940 рублёў, каб пералічыць іх на разьліковы рахунак № 3625000000038 у філіяле 525 АСБ «Беларусбанка». Аднак мы не шкадуем гэтага ахвяраваньня, бо кожны з нас разумее, што ніхто акрамя нас не падтрымае пабудову Храма ведаў ●

**Жора Сорас,**
мэцэнат

## Самвыдат ад Саюзу пісьменьнікаў




Нарэшце альтэрнатыва холдынгавым часопісам *Полымя*, *Крыніца*, *Нёман* і г.д. ажыцьцявілася ў надрукаваным і распаўсюджаным па беларускіх кнігарнях выглядзе. Першы нумар часопіса *Дзеяслоў*, пад каляровай (шэра-аранжава-фіялетавай) вокладкай якога сабралася больш за дваццаць дзевяць беларускіх і некалькі польскіх і ўкраінскіх літаратараў, можна назваць органам галоснасьці апазыцыйнага істэблішмэнту. У пэўным сэнсе гэта дайджэст былых дзяржаўных літаратурных часопісаў – ад *Першацвету* да *Маладосьці*, якія ніхто акрамя сваякоў і знаёмых аўтараў не чытаў. Цяпер беларуская літаратура апынулася па-за мяжой дазволенага – амаль як улетку 91-га года за «мяжой» раптам прачнуліся ўсе мы.
Як яшчэ можа літаратура зьвярнуць на сябе ўвагу ў постлітаратурным грамадзтве? Папулярнасьць вядомаму англа-пакістанскаму пісьменьніку Салману Рушдзі прынесьлі не ягоныя несумнеўна выдатныя і тоўстыя раманы, дзе той умудраецца збэсьціць па тры-чатыры сусьветныя сыстэмы каштоўнасьцяў запар, а тое, што аятала Хамейні аб'явіў узнагароду ў мільён даляраў за ягоную галаву. Існаваньне сфэры недазволенасьці проста неабходнае творцы, каб прыцягнуць увагу публікі да яго небясьпечнай працы. Ні Сьвятлана Алексіевіч, ні Ўладзімір Някляеў, ні Алесь Разанаў, увогуле ніхто з аўтараў «Дзеяслова» не напісалі ніводнага радка, які б радыкальна адрозьніваўся ад таго, што пісалася імі раней у дзяржаўных выданьнях. Проста з аўтараў дзяржаўных выданьняў яны зрабіліся аўтарамі самвыдату – DIY (Do It Yourself) ●

**Уладзімір Чаркасаў**

*РэцЭнзія*

### Вясковыя могілкі

Ленін і Джэці, Вера Бурлак і Віктар Жыбуль, знаёмыя ўсім аматарам гурта ЗАСРАЛІ КАЗАРМУ, выдалі чарговы нумар свайго часопіса *Вясковыя могілкі.* У часопісе ёсьць усе неабходныя атрыбуты часопіса – вершы, проза, ілюстрацыі і мастацкая крытыка. У паэзіі нават прысутнічае дзёрзкая спроба эпатажу. Вось напрыклад, адзін са сталых аўтараў часопіса *ВМ* Вінцук Адвячорка дзеліцца з чытачамі адкравеннымі прызнаньнямі:

Падабаюцца мне галубыя.
Яны проста ня маюць праблем,
Ў іх усе разгаворы прастыя
І няма забароненых тэм.
Хай крычаць, што яны не такія,
Не сапраўдныя, мол, мужыкі...
Падабаюцца мне галубыя,
Мне шкада, што я сам не такі.

Старонка крытыкі прадстаўляе Сяргея Труніна з тэкстам «Паэтызацыя брутальнага ў творчасьці Васіля Фэрхольда». У вершы «Фэмінізм», на думку аўтара «герої(іня) па свойму сынтэзуе культуралагічныя праявы і атрымліваецца адно толькі слова – «б*лядзтва». (На жаль, тэксту не хапае цытатаў гэтага несумнеўна цікавага аўтара.)
Апошняя старонка *ВМ* дае адрасы і кантакты іншых такіх самых літзінаў – *ХНЮ* №4, *Marabaka*, *Вредина*, *Trumheim* №4, *Слово и культура* і *Look ahead.*
І гэта яшчэ ня ўсё! *ВМ* гэтым разам выходзіць з дадаткам – ЛЮМІНАЛ: «Літатаратура Юных Маньякаў, Ідыётаў, Нэкрафілаў, Алкаголікаў, Людажэраў». Дадатак цалкам прысьвечаны лекцыі вядомага пэрфарматара Зьміцера Вішнёва ў БДПУ імя М.Танка на тэму «нэкрарэалізму». Толькі Л.Рублеўская на старонках *Дзеяслова* наіўна верыць, што Вішнёў дзеля эпатажу кладзецца ў труну. Не! Былы паэт-нябожчык зрабіўся лектарам-нэкрарэалістам, і гэтае відовішча не саступае ўсім папярэднім пэрфомансам.



## «Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася свастыка!»

*Ізноў аматары беларускай мовы правакуюць новых азарогкаў на чарговы блокбастэр «Дзеці Ілюзы»*




З нагоды акцыі «Хочаш пахудзець - гавары са мной па-беларуску!» ТБМ выпусьціла сэрыю значкаў з правакацыйнымі лёзунгамі кшталту «Беларусь – беларусам», «Беларусь панад усім», нават «Belarus uber alles». Ці значыць гэта, што Weissruthenische Schprache Gesellschaft перайшло на абслугоўваньне недабітых нацыкаў? Напэўна, не. Для артадаксальнага немца гэткая экзотыка – поўны абсурд. Вядома, што ў часы нямецкай акупацыі нацысты не дазвалялі СБМ-аўцам і краёўцам карыстацца свастыкай, як арыйскім сымбалем. Хаця якая ўласна розьніца: «Пагоня» – гэта такі ж сонечны знак, як і свастыка ў гітлераўцаў і ўзыходзячае сонца на «расьсьвеце над балотам». Розным сучасным скінам кшталту «White power» такія расклады таксама не прыйшліся б да густу: быў выпадак, калі група маскальскіх «арыйцаў» знайшла праз і-нэт адрас нейкіх амэрыканскіх звышчалавечкаў і паслала ім грошы, бо тыя рэклямавалі наварочаныя супэркурткі-бомберы з расісцкай сымболікай. Белыя брацьця грошы ўзялі, а супэрмаскалям адказалі, што ня вераць у існаваньне біялягічных арыйцаў на ўсход ад Одры. Вось так. Такім чынам, калі яшчэ ўлічыць мультыкультурны характар сучаснага посткультурнага грамадзтва, нам прадстаўляецца некалькі раўнапраўных рашэньняў гэтага пытаньня:

1) **Чыста антыфашыстоўская акцыя**. Існуючыя клоўны-экстрэмалы са сваімі «расія – фсё, астальноя – нічё», фанаты гуртоў БЕЛЫ АРАЛ, ЛюБЭ, РНЕ ды іншыя моднікі, наўрад ці зразумеюць, што наша свастыка такая ж людзкая, і, як заўсёды, будуць непазьбежныя канфлікты.

2) **Антыдзяржаўная акцыя.** У 1981 годзе Джала Біяфра ў альбоме «Fresh Fruits For the Rotten Vegetables» запісаў песьню «California Uber Alles», дзе ў такой правакацыйнай форме крытыкавалася палітыка губэрнатара Джэры Браўна: «I will be Fuhrer one day \I will command all of you\ Your kids will meditate in school\ California Uber Alles\ Uber Alles California...» Значкі «Belarus uber alles» – антыаўтарытарная акцыя панкуючых лібэрал-дэмакратаў.

3) **Інтэграцыйная акцыя**, якая мусіць аб'яднаць аб'яднаны ўжо БРСМ з праварадыкаламі з «Краю», «Белага легіёну» і «БПС» (хаця існаваньне апошніх трох арганізацыяў выклікае дужа сумневаў). Нацыяналізатары знайшлі агульную каштоўнасьць, дарагую сэрцу кожнага беларуса – як аматара адміністрацыйнай, гэтак і літаратурнай творчасьці. Гэта вышыты Слуцкі пояс, які зьяўляецца неад'емнай часткай дзяржаўнага сьцяга і прагненьнем кожнага адэпта кансэрватыўных каштоўнасьцяў. Калекцыянэры значкаў у любым разе папоўняць свае калекцыі гэтымі безумоўна рарытэтнымі культурнымі артэфактамі ●

**Эрнст Тэльман,**
антыфалерыст

# Як адцягнуцца...

## Па-зорнаму

Як закласьці зорку? Вельмі проста – бярэш ліст паперы і пішаш: «...Дакладаю, што народны артыст Аляксандар Саладуха – схаваны пэдафіл, які ў кейсе ад гітары носіць какаін і марыхуану...» Уяўляеце, якое шоў можна зрабіць, калі закладаньне зорак учыняць публічна? На жаль у клюбе Night Star свае ўяўленьні пра вясёлы адпачынак. І нічога цікавейшага за трывіяльнае замуроўваньне вуглаватай бляшанкі ў бэтон (**«Папараць-кветка», ля Валадаркі, 12.10, 24:00**) у вечар памяці гурта NAZARETH не адбудзецца. Ці варта казаць, што думаюць пра клюб Night Star і ягоную алею зорак **МакКафэрці і кампанія** (**Палац Рэспублікі, 12.10, 19:00**), якія на старасьці год вымушаныя гэтак пазорыцца?

## Па-мажорску

Калі тваю душу пачынае катаваць невырашальнае пытаньне, куды пайсьці **ўвечары 5.10** – на мажорскую каманду **КВН БДУ** ў **«Белую Вежу»**, альбо на модную ў пэўных колах групу **HI-FI (клюб «Maximus»)**, застаецца адзіна верны адказ – **у піўняк на Рэспубліканскай**.

## Па-мужчынску

У Беларусі зноў выбітныя майстрыцы жанру, жрыцы эстрады і віртуозкі сучаснага сцэнічнага мастацтва – гурт **ВИАГРА** (**«Maximus», 7.10**). У той жа час некаторыя вычварэнцы спрачаюцца, што падчас выступаў **Наташы Каралёвай** (**Палац Рэспублікі, 3.10**) настрой уздымаецца значна хутчэй, вышэй і, галоўнае, эфэктыўней. Аблом: на радзіве кажуць, што яна ўвогуле не прыедзе...

## Па-рэтра

Аматары савецкай мінуўшчыны таксама перад нялёгкім выбарам – у **Зураба Саткілавы** (**Ёперны, 8.10**) галасіна моцная, але квіткі па 50 тысёнцы, у **Юлія Кіма** (**КЗМ, 9.10**) голас цішэйшы, затое уваход па 16...

## Па-ленінградзку

Ну што тут казаць? Шнур з кампаніяй у Менску! Культавая банда **ЛЕНИНГРАД** засыпае мацюкамі і марыхуанай прастору **клюбу «Рэактар» 25.10** – акурат на мой дзень народзінаў. Усім вясёлага адрыву! «Поо-ўныя кааа-рмаа-ны...»

## Па-мэдыцынску

**У бібліятэцы на вуліцы Харужай** працягваецца **выстава «Жыць шкодна!»**, прысьвечаная, на першы погляд, нездароваму ладу жыцьця. Так гэта ці не – даведаецеся на месцы, мастакі ж пазыцыянуюць сваю акцыю як антыпрагматычную і антыўтылітарную...

## Па-фрэйдаўску

Пры адным толькі поглядзе на афішу – **«спэктакль «СПАКУСА», у галоўнай ролі - Сяргей БЯЗРУКАЎ»**, – на вочы наварочваюцца сьлёзы. Для маньякаў-тэатралаў дадам: у галоўнай жаночай ролі Любоў Палішчук, месца дзеяньня – **Дом Афіцэраў, 27.10**.

## Па-кіношнаму

З надыходам халадоў наведнікі кінатэатраў пераходзяць ад піва да больш моцных напояў і шчыльнейшага кантакту з асобамі супрацьлеглага полу... Адпаведна тое, што адбываецца на экране, мае яшчэ менш значэньня для гледача, галоўнае – каб не перашкаджала алькагольным і сэксуальным інстынктам. Добрым фонам для сугрэву на гэтым тыдні зьяўляюцца: у **«Аўроры»** – **«Карпарацыя монстраў»** і **«Ракавая жанчына»**, у **«Вільнюсе»** – **«Чалавек-павук»** і **«Амэлі»**. А **«Масква»** круціць новы кітчавы баявік **«XXX»** – чарговыя прыгоды амэрыканскіх супэрагентаў, якія абрыдлі да самай пячонкі. Па шчырасьці, не дачакаюся, калі галоўным героем якой-небудзь амэрыканскай стужкі стане абаяльны і сэксапільны супэртэрарыст Ладэн, бэн Ладэн.

**Джамал Аль-Санітар**,
культурны футуроляг

# Happy Meal для чыкацілаў



Амэрыканскае й сусьветнае грамадзтва даўно ўжо апарыцца пытаньнем: адкуль зьяўляюцца розныя вырадкі, маньякі ды гвалтаўнікі, якім хлебам не кармі, а дай застрэліць вучылку, трахнуць аднакласьніцу або раскраіць на дробныя кавалкі роднага бацьку (маючы на ўвазе біялягічнага! – **рэд**). Тысячы псыхолягаў і сацыяльных работнікаў ламаюць галаву, высоўваючы розныя гіпотэзы. Аднак прычына гэтага брутальнага фэномэну валяецца літаральна пад нагамі.

Ужо на працягу месяца беларуская дзятва багатых тат і мам – заўсёднікаў МакДональдсаў – разрываецца ад плачу: «А дзе сабачкіна галоўка?» або «Хто зьеў ейныя ножкі?» Прычына гістэрыкі карапузаў – новая «цацка» ў комплексе «Happy Meal», якая ўяўляе сабой цела шчаняці, падзеленага на чатыры часткі (гл.мал.). Думка дзядзькі Рональда простая як параная радзіска: каб сабраць беднага сабачку цалкам дзіця павінна пачаставацца заморскай жрачкай аж чатыры (!) разы, што ўвальецца ў капеечку неабачлівым бацькам.
Але гэтая заалягічная расчлянёнка ставіць усё на свае месцы. Падумайце самі, што можа вырасьці з саплівага малакасоса, які ад маленства прывычны знаходзіць у пакеце кавалкі цела з пахам мяса. Такіх ужо ня зьдзівіш, калі паслаць ім па пошце бабульчыну галаву («Ёсьць недзе ногі, якія можна лёгка прысабачыць».). Бо дзіцячая псыхіка прызвычайваецца спачатку зьбіраць па частках, а потым і разьбіраць розных жывых пэрсанажаў. Таму ня дзіўна, чаму менавіта ў Амэрыцы дзеці, якія сталі ахвярамі хітрыкаў Рональда МакДональда, ператвараюцца ў жахлівых крывавых злачынцаў, папаўняючы тамтэйшы Алькатрас для непаўнагадовых.
Але нам гэткая пэрспэктыва не патрэбная. Рэдакцыя газэты Навінкі выступае з рашучым заклікам да бацькоў змагацца за забарону гэткай крыважэрнай цацкі, якая гадуе ў нашай краіне чыкацілаў! ●



***1. Вось такія забаўкі прапануюць нашым дзецям у McDonald' s.***
***2. А гэта тое, чым будуць займацца заўтра былыя аматары «хэпі-мілу».***

*КухОнныя гісторыі*

# Круасаны ад Славаміра

Гэтае паведамленьне напісанае з надзеяй, што Вы пашлеце яго ўсім, чыю электронную адрэсу Вы ведаеце ці калісьці сустракалі. Калі ласка, не саромцеся рассылаць яго паўсюль, дзе толькі можна.
Прывітаньне. Гэта я, Славамір Адамовіч. Хачу распавесьці пра тое, як насамрэч выглядае справядлі-васьць у старых добрых Злучаных Штатах Амэрыкі. Думаю, гэта будзе цікава ўсім. Мая гісторыя наказвае, як можна дамагчыся справядлівасці з дапамогай інтэрнэту.
Падчас маёй апошняй вандроўкі па Амэрыцы лёс беларускага літаратара закінуў мяне ў кавярню Ньюмана-Маркуса, што ў Даласе, штат Тэксас. Пад'еўшы гамбургераў мы зь сяброўкай вырашылі пакаштаваць нешта на дэсэрт Я ніколі не каштаваў амэрыканскіх піроржных і таму вырашыў пакаштаваць «Піроржнае Ньюмана-Маркуса». Яно было такое смачнае, што я папрасіў даць рэцэпт, але мне зь ветлівай усьмешкай адмовілі. Тады я пацікавіўся, можа мне прададуць рэцэцпті «Канешна!» – адказалі мне. Я спытаў, колькі гэта каштуе іпачуў «два-пяцьдзесят». «Добра», – сказаў я і папрасіў дадаць гэтую суму да рахунку.
Празь месяц я атрымаў выпіску па рахунку маёй карткі VISA. Кавярня Ньюмана-Маркуса зьняла з майго рахунку 275 даляраў. Я дакладна памятаў, што патрацілі 5 на гамбургеры і каля 20 даляраў на піва. І тут на доле я знайшоў прыпіску: «Рэцэпт піроржных – 250 даляраў». Як я злаваўся! Я патэлефанаваў у кавярню і заявіў, што калі афіцыянтка сказала мне цану «два-пяцьдзесят»; адкуль мне было ведаць, што яна мела на ўвазе 250 даляраў?
Я папрасіў іх забраць рэцэпт і зьнізіць мой рахунак на адпаведную суму, але яны рашуча адмовілі: аказваецца, усе іх рэцэпты вельмі дарагія, каб ня кожны мог іх скарыстаць. Пэўны час я думаў, як можна паквітацца з махлярамі альбо паспрабаваць атрымаць назад хаця б частку сваіх грошаў. Пасьля сказаў: «Добра. Калі ваша кавярня выцягнула зь мяне 250 даляраў, я павесялюся на гэтыя грошы». І папярэдзіў, што зраблю ўсё, каб кожны аматар піроржных атрымаў іх 250-даляравы рэцэпт бясплатна. «Не рабіце гэтага!» – залямантавалі яны, на што я адказаў: «Шкада мне, але гэта адзіны спосаб разьлічыцца з вамі, які мне прыходзіць да галавы. Як я задумаў, так і зраблю».
Дык вось,той самы рэцэпт. Калі ласка,




С.Адам. за любімым заняткам

перадайце яго камусьці яшчэ ці разпаўсюдзьце ў некалькіх асобніках. Я заплаціў за яго, цяпер вы атрымліваеце яго бясплатна.
Колькасьць інгрэдыентаў можна падзяліць на 2: 2 чашкі масла, 4 чашкі мукі, 2 чайныя лыжкі пітнай соды, 2 чашкі звычайнага цукру, 5 чашак аўсянай мяшанкі, 24 унцыі шакаладных чыпсаў, 2 чашкі карычневага цукру, 1 чайная лыжка солі, 1 плітка (8 унцыяў) шакаладу «Hershey» (расьцертая), 4 яйкі, 2 чайныя лыжкі кандытэрскага разрыхляльніка, 3 чашкі арэхавай крошкі (па смаку), 2 чайныя лыжкі ваніліну.
Засыпце аўсяную мяшанку і раздрабніце яе ў міксэры да стану пудры. Зьмяшайце масла і абодва віды цукру. Дадайце яйкі і ваніль; зьмяшайце з мукой, аўсянкай, сольлю, пякарскімі дрожджамі і содай. Дадайце шакаладныя чыпсы, шакаладу і арэхі.
Раскатайце ў шарыкі і раскладзіце на бляхі прыкладна ў 5 см адно ад другога. Выпякаць 10 хвілін пры тэмпэратуры 210 градусаў.
Рэцэпт разьлічаны на 112 піроржных.
Вось і ўсё! Гэта здарылася са мной на самой справе. Калі ласка, рассылайце гэты рэцэпт усім, каго вы ведаеце, асобным людзям, па сьпісках рассылкі і г.д ●

**Славамір Адамовіч**,
кулінар

# Сустрэчы на Сьвіслачы

12 кастрычніка ў Менск прыязжаюць ветэраны брытанскай рок-сцэныгурт «Назарэт». А праз тры дні ў той самай залі Палацу Рэспублікі адцягваюцца рамантыкі спэцназу – шавіністычны і рускапатрыятычны гурт ЛЮБЭ. На канцэрт ЛЮБЭ ажно сам Пуцін хадзіў, калі адпачываў у Крыме. А Лукашэнка на Дзень Перамогі слухаў канцэрт ЛЮБЭ ў берасьцейскай крэпасьці. А NAZARETH таксама калісьці сьпяваў шавіністычныя песьні. Антысавецкія – у альбоме 1981 года «Круглы дурань» старычына МакКафэрці



Вось так гурт NAZARETH уяўляе сабе жыхароў Усходняй Эўропы

сьпяваў пра Захад, які разявіў рот і ня чухаецца, калі на Ўсходзе рычыць мядзьведзь. Вось так калектывы з так супрацьлеглай палітычнай арыентацыяй аб'яднала адзіная мэта – служэньне Мастацтву ●

# Ацяпляльны сэзон пачаўся

## Але ці пратрывае?

Нарэшце цеплалюбівыя беларусы дачакаліся прыемнага шуму гарачай вады ў батарэях. Як было заяўлена на самым высокім узроўні, з кастрычніка будуць ацяпляцца школы, дзіцячыя садкі й шпіталі, а да 7-га павінны разагрэцца й астатнія грамадзяне краіны. Напярэдадні гэтай знамянальнай падзеі краіна поўнілася рознастайнымі чуткамі аж  да такіх, што нібыта ацяпляльны сэзон увогуле ў Беларусь ня прыйдзе – масквіны зьбіраюцца абвесьціць нам новую «халодную вайну» ў поўным сэнсе гэтага слова, перакрыўшы пастаўкі газу.

Ці доўга мы будзем песьціцца ў цёплых хатах? Бабкі-шаптухі нагаворваюць халодную зіму, а крамлёўскія глобы-аналітыкі ўсё яшчэ гразяцца газавай блякадай Лукашэнку. Спадзяюцца, відаць, марозам зламіць волю прэзыдэнта і ўсяго беларускага народу да сувэрэнітэту й незалежнасьці. Але беларусы – ня фрыцы якія, не жабаеды банапартавы. Нас, загартаваных адмарозкаў, маразамі не зламіць.

Таму, спадзеючыся на лепшае, варта быць гатовымі да горшага і ўжо зараз валодаць некаторымі прыёмамі грамадзянскай абароны супраць агрэсіі дзеда Мароза. Як жа будуць абараняцца ад скрыпучых зімовых сьцюжаў абітальнікі К.Маркса-38, а зь імі і ўвесь беларускі народ падчас гіпатэтычнай «халоднай вайны»?




Расьціраньне сьвінным тлушчам




Выкарыстаньне печкі-буржуйкі




Кутаньне ў шубу




Забарыкадаваньне вокнаў




Заняцьце тантрычным сэксам




Ужываньне сугравальных саставаў




Аздараўленчае гартаваньне